

# Беларус

**50-ГОДЗЬДЗЕ!**

*«Другі Ўсебеларускі Кангрэс... пастанавіў: Вызнаць правільнай і зноў пацьвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі... 25 сакавіка 1918 г.»*

*Менск, 27 чэрвеня 1944 г.*

**№ 415 Жнівень 1994**
Год выд. 43

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $2.50

## БУДУЧАЕ БЕЛАРУСІ НЕ Ў МАСКВЕ

**(Думкі да Лукашэнкавай паездкі ў Маскву)**

Былы прэм'ер Кебіч безаглядна кіраваўся на Маскву, каб тая яго выратавала. Не дачакаўся ён таго дня! Кандыдат у прэзыдэнты А. Лукашэнка рашуча выказваўся, што калі яго выберуць, ён адразу-ж паляціць у Маскву, што прэзыдэнт Лукашэнка хуценька й зрабіў. Выглядае, што беларускія палітыкі-прамаскоўцы спадзяюцца ад Масквы «манкі зь неба». Тым часам Масква не сьпяшаецца браць на «утрыманьне Беларусь». У фінальных дакумэнтах маскоўскай паездкі А. Лукашэнкі ёсьць умова, што каб увайсьці ў рублёвую зону, у Беларусі патрэбна правесьці эканамічныя рэформы, ці, інакш кажучы, самым пакласьці пачатак новай эканоміцы, без дапамогі суседа. Калі гаворка пра рэформы, дык гэта зусім лягічнае ды правядловае сьцьверджаньне. Аб патрэбе рэформаў, заініцыяваньня свае эканамічнае праграмы беларусы-эканамісты з БНФ ды зь іншых колаў гаварылі ад 1991-га году, але Кебіч і кампанія ўсялякія эканамічныя пачынаньні стрымвалі ды загналі эканоміку ў тупік.

Эканамічныя рэформы неабходныя, але не дзеля таго, каб падабацца Маскве, а каб выратаваць сваю краіну з эканамічнага крызісу. Разважаючы-ж лягічна далей, правёўшы рэформы — пачакаем вынікаў, як будзе разьвівацца стан эканомікі, а тады паглядзім ці будзе патрэба гнацца за рублёвай зонай, ці можа будзе ляпей быць раўнапраўным, незалежным эканамічным партнёрам Расеі і іншых краінаў. Але каб гэтага дасягнуць, трэба мець распрацаваную сваю беларускую эканамічную праграму, над якой павінны цяпер працаваць усе эканамісты, з усіх партыяў і плыняў. Тады гэта будзе беларуская праграма.

Ды асноўнае, што нам беларусам трэба добра ўсьвядоміць, што ў нялёгкім эканамічна-гаспадарчым стане ў цяперашнім часе мы не адны. Панад дзесятак рэспублікаў былое Імпэрыі, уключна з самой Расеяй, знаходзяцца ў нялёгкім стане, першапрычынай чаму якраз і была маскоўская імпэрская палітыка. Але сёньня і сама Масква і іншыя рэспублікі-дзяржавы сваімі ўласнымі сіламі шукаюць выйсьця на новы шлях. Жылі мы пад маскоўскай «апекай» панад 200 гадоў, ды гісторыя нам дала шанц жыць нарэшце сваім розумам, незалежна й самастойна. З шанцу гэтага мы ня маем права не скарыстаць.

## *Навіны зь Беларусі*

### Новыя прызначэньні

Аляксандр Лукашэнка, нававыбраны прэзыдэнт Беларусі паклікаў на пасаду прэм'ер міністра **Міхаіла Чыгіра**, эканаміста па адукацыі, 1948 году нараджэньня; беларус зь Меншчыны.

**Уладзімір Сянько**, былы пасол рэспублікі Беларусь у Англьшчыне, прызначаны на пасаду міністра замежных спраў. Намесьнікам міністра замежных справаў прызначаны сп. **Валеры Цэпкала**, прафэсыйны дыплямат. Сп. **Анатоль Лябедзька** прызначаны сувязным паміж прэз. А. Лукашэнкам і Вярхоўным Саветам РБ.

Гэнэральным консулям у Канаду быў прызначаны яшчэ былым прэм'ерам В. Кебічам сп. **Алег Лапацёнак** (паводля газ. Добры Вечар, Менск, 3.08.94).

Былы галоўнакамандуючы Беларускай ваеннай акругі, **Анатоль Касьценка** пакліканы на міністра абароны.

**Юры Захарэнка**, праўнік зь вялікай практыкай у органах падтрыманьня парадку, назначаны на міністра унутраных справаў, а **Ўладзімір Ягораў**, былы Міністар, прызначаны на старшыню Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі.

### ІНТЭРВ'Ю З СП-НЯЙ ГАЛІНАЙ ЛУКАШЭНКА

Зьвязда за 4-га жніўня выдрукаала цікавую гутарку з спадарыняй Галінай Лукашэнка, жонкай новаабранага прэзыдэнта Беларусі, у якой закранутыя шмат пытаньняў як асабістага профілю — колькі ў іх дзяцей, якая была аўтамашына, ці муж дапамагае ў хатняй гаспадарцы і г.д., гэтак і пытаньняў, якія хвалююць грамадзтва.

Прыкладам на пытаньне: А ёсьць у Вас палітычныя разнагалосьсі з мужам? Яна адказала: «У нечым я зь ім ня згодная. Прыкладам ён выступае за двухмоўе, а я лічу, што ў нас павінна быць дзяржаўнай толькі беларуская мова. Сорамна нам, беларусам, не ведаць сваей мовы. А калі ўвесьці двухмоўе, то ўсё застанецца так, як ёсьць.»

Выдатна сказана! Вельмі правільны пагляд беларускай жанчыны, якая працуе загадчыцай дзіцячага саду у вёсцы Рыжкавічы Шклоўскага раёну, Магілёўскай вобласьці.

**БЕЛАРУСЬ НЕ ГАТОВАЯ ДА ГРАШОВАГА ПАГАДНЕНЬНЯ**

Пасьля спатканьня з прэзыдэнтам Расеі Барысам Ельцыным і прэм'ерам Б. Чэрнамырдзіным 3-га жніўня ў Маскве, Лукашэнка абвесьціў, што абодвы бакі пагадзіліся, што Беларусь не гатовая да грашовага саюзу з Расеяй.

## ДА ПЕРАМЕНАЎ У МЕНСКУ

Пакідаючы Міністэрства Замежных Спраў Беларусі Пётра Краўчанка даў абшырнае інтэрвію журналістам. Ён кіраваў Міністэрствам ад 17-га ліпеня 1990-га году, калі гэтая ўстанова мела ў практыцы чыста сымбалічнае значаньне, да ліпеня сёлета, калі Міністэрства ператварылася ў адну з важнейшых установаў Рэспублікі Беларусь ды адпаведна праводзіла дзяржаўную палітыку ў вонкавай сфэры.

Пётра Краўчанка сказаў, што за мінулыя чатыры гады колькасьць дзяржаваў, што прызналі Рэспубліку Беларусь, вырасла да 123-х; 97 з гэтых дзяржаваў наладзілі дыпляматычныя сувязі зь Беларусьсю. У Менску працуюць панад 20 пасольстваў, а за мяжой функцыянуе панад 30 беларускіх прадстаўніцтваў. Далей былы міністр выказаў некалькі пагляд аў на мінулыя, нелёгкія гады працы ў Міністэрстве, выказаў свае асаблівыя зацікаўленьні, як прыкладам праблема абароны беларусаў, іх людзкіх правоў, у краінах Балтыі, ягоныя дамаганьні дасягнуць лепшых для беларускага боку эканамічных паказьнікаў у перамовах з Расеяй, падкрэсьліў, што ў так званай «красавіцкай» дамоўленасьці і дзейнасьці былого прэміера В. Кебіча (паездка ў Маскву ды імкненьне замацаваць рублёвую адзінасьць з Расеяй) Міністэрства П. Краўчанкі ніякага ўдзелу ня брала, зь ім ніхто не радзіўся ды гэтае ініцыятывы ён не падтрымваў. Выказаўся былы міністр аб тым, што ня мае намеру працаваць у цяперашнім урадзе, але ад палітыкі не адыходзіць. Дадамо, што адно з бясспрэчных дасягненьняў Пётры Краўчанкі было і тое, што ён наладзіў выдатныя адносіны зь беларускай эміграцыяй, стаўся добра ведамым ня толькі палітычным але і культурна-грамадзкім ды навуковым колам на захадзе і ў Амэрыцы ды кансэквэнтна і энэргічна вёў беларускую палітыку — найперш ставіў Рэспубліку Беларусь на сёньняшнюю палітычную карту.

26-га ліпеня сёлета пачаліся перамовы паміж адпаведнымі ўладамі Літвы і Беларусі аб адміністраваньні і наглядзе за станам чыгунак, якія праходзяць па сумежных тэрыторыях абедзьвух краінаў. Прыпушчальна, што перамовы будуць працягвацца каля месяца часу.

27-га ліпеня была адчыненая беларуская амбасада ў Рызе.

## СТРАТЭГІЧНЫЯ РАКЕТЫ ЗША І БЕЛАРУСЬ

Пасольства Рэспублікі Беларусь зьвярнулася 31-га мая сёлета у Савет Нацыянальнай Бясьпекі ЗША з просьбай пацьвердзіць, што з сеньняшняга дня стратэгічныя ракеты ЗША не нацэленыя на Беларусь у сувязі з тым, што ў амэрыкана-расійскай заяве ад 14-га студзеня 1994 году было заяўлена аб намеры Прэзыдэнтаў абедзьвух краінаў спыніць нацэльваньне сваіх стратэгічных ракетаў да 30-га мая 1994 году.

Дзяржаўны Дэпартамент пацьвердзіў Пасольству, што спынена нацэльваньне ўсіх амэрыканскіх стратэгічных ракетаў, у тым ліку і на Беларусь, з тэрыторыі адкуль зараз выводзяцца стратэгічныя ракеты Расіі.

Адзначаны захад з'яўляецца важным крокам на шляху канчатковай ліквідацыі рудымэнтаў «халоднай вайны».

## НЯЎДАЛЫ ЭКСПАРТ ЗЬ БЕЛАРУСІ

Присутнасьць Беларусі на вольным рынку — параўнаўча новая зьява. Таму важна, каб рэпутацыя Беларусі й беларускіх тавараў з самага пачатку усталявілася на высокім узроўні.

Вельмі мяне ўсхалявала калі, на мінулым тыдні, у курсе маёй штодзённай працы ў адвакатскай фірме ў Вашынгтоне я прачытала ў тыднёвым бюлетэні "International Trade Reporter" за 7-га ліпеня сёлета, што Амэрыканскія Мытавыя Ўлады затрымалі дзіцячыя цацкі выробленыя ў Беларусі. Прычына гэтаму была наступная: у фарбе гэтых цацкаў, у некаторых выпадках, было аж у 300 разоў больш сьвінца (Pb), чым дазваляецца амэрыканскім законам "Hazardous Substances Act" (Закон небясьпечных рэчываў). Паводля гэтага закону дазволена, каб колькасьць сьвінца ў фарбах не перавышала 0.06%, а ў затрыманых беларускіх цацках, вартасьць якіх была 121,905 ам. даляраў, было ад 0.09% аж ад 19.91%. Гэтыя цацкі ЗША не прапусьцілі. У другіх краінах напэўна ёсьць падобныя законы — дзе тычыцца здароўя дзяцей, законы бываюць самыя строгія. Што станецца з гэтымі цацкамі?

Для Беларусі цяпер эканамічна важна мець экспартную вытворчасьць. Аднак, калі Беларусь хоча вывозіць свае тавары за мяжу, трэба мець на ўвазе і законы і вымаганьні тых краінаў, куды могуць кіравацца гэтыя тавары, бо сапсаваць рэпутацыю вельмі лёгка.

**Алеся Кіпель**

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# АМЭРЫКА АДЗНАЧАЛА ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ 17-23 ліпеня




*Перад катэдрай Сьв. Патрыка.* *Фото А. Крыштаповіча*

У сёлетняй Праклямацыі, якая абвяшчае штагоду, пачынаючы ад 1959 году, Тыдзень Паняволеных Народаў і якую падпісаў Прэзыдэнт ЗША, Біл Клінтан, загарантаваўшы нязьзьменную падтрымку Паняволеным Народам выказаў і гэткае цьверджаньне: «...Народы былога Савецкага Саюзу робяць цяжкія высілкі ў працэсе пераходу да Свабодных Грамадзтваў і мы будзем імкнуцца падтрымваць іх у меру нашых магчымасьцяў...»

# «СТАЦЦА НАШЫМІ САТЭЛІТАМІ... АБО ПАМЕРЦІ»

Пад гэткім загалоўкам Барыс Туманаў, маскоўскі карэспандэнт бэльгійскай штодзённай газэты *La Libre Belgiuque* ад 9-га траўня сёлета, падае, аб апошніх імкненьнях расейскіх кіраўнікоў да зрэалізаваньня нэо-імпэрыялістычных тэндэнцыяў, у абшарах былога Савецкага саюзу.

Паводле карэспандэнта, рэчаіснасьць гэтых прэтэнзыяў была выказана, з амаль цынічнай аткрытасьцю, прэзыдэнтам камітэта Думы па справах СНД Затуліным, які сказаў у *Независимой Газете*, што палітыка Масквы ўнутры супольнасьці вынікае з унутраной палітыкі Расеі, якая, паводля яго, павінна «навязаць сваю асаблівую ролю» былым савецкім рэспублікам. Затулін, зазначае Туманаў, уважае менавіта, што «кожная малая краіна павінна быць шчасьлівай знаходзіцца ў зоне ўплываў вялікае ўлады» вынікам чаго адносіны Расеі зь іншымі краінамі СНД ня могуць быць дзейснымі, як толькі ў рамках дагавараў, якія зацьвердзяць ейную (Расейскую Я. Ж.) перавагу ў галінах эканоміі й этнічных меншасьцяў. Гэтая апошная умова, удакладняе Затулін, мусіць быць дакананая праз прымушаную фэдэралізацыю краінаў як Грузія, Малдавія, Казахстан і Украіна. Тут карэспандэнт цытуе Затуліна: «Я не прызнаю іхняе тэрытарыяльнае інтэгральнасьці як толькі у выпадку, калі гэтая краіны зразумеюць, што яны асуджаны стацца нашымі сатэлітамі або паміраць».

З другога боку Затулін відавочна адмовіўся ад афіцыяльнае тэзы Масквы, якая запэўняе безінтэрасоўны й мірны характар адносна прысутнасьці ейных войскаў у некаторых гарачых пунктах былога Савецкага саюзу. Ён даў ясна да зразуменьня, што ў сапраўднасьці, прысутнасьць расейскае арміі ў Таджыкістане ня мае ніякіх іншых мэтаў, як абараняць гэты стратэгічны аванпост Расеі, што, паводля яго, апраўдвае ўсе ахвяры.

Гэтыя шакуючыя выказваньні Затуліна, кажа Туманаў, адлюстроўваюць некаторыя рэальнасьці расейскай дыпляматыі, якая, апошнім часам штораз часьцей супрацьставіць крытэрыі нацыянальных інтэрэсаў да ўсеагульных. Затулін з задаваленьнем канстатуе, што, ад мінулага сьнежня, дэпартмэнт Казырова «радыкальна зьмяніў свае пазыцыі», якія, паводля яго, практычна ідэнтычныя пазыцыям Думы.

Нельга мінуць гэткія выказваньні і пагляды без камэнтароў.

Гэтыя дэклярацыі, даволі ўплывовага сябры расейскага эстаблішмэнту, актуальныя й сяньня, прыносяць ня ўскрыты страх для ўтрыманьня беларускага сувэрэнітэту. Калі Затулін не ўспамінае Беларусі, дык трэба ня толькі думаць, але й быць упэўненым, што ён уважае нашую краіну на 100% ахвярай ягоных імпэрыялістычных плянаў.

На гэта ён мае, на вялікі наш жаль, пэўныя падставы. Сяньняшнія ўрады усімі сіламі імкнуцца ўвесьці Беларусь у склад Расеі. Прыкладам Кебіч казаў у часапісе *Беларусь* 2, 1994: « ... А менавіта ў раёне Баранавіч разьмешчаны аб'кты першага кальца сыстэмы супраць паветранай абароны Масквы. Навошта сёньня той-жа Расіі трацiць велізарныя сродкі, каб ствараць новую сыстэму абароны сталіцы? Якраз той выпадак, калі й мы трапляем пад «парасон абароны». «Вось вы пытаецеся, што для мяне» быць беларусам»? Канешне, ведаць мову, культуру, гісторыю свайго народу, паважаць мінулае (чыё?? Я. Ж.), думаць пра будучыню (чыю?? Я. Ж.)... Але-ж пры гэтым, пакуль я кіраўнік урада, я павінен яшчэ гарантаваць гэты «парасон бясьпекі», а то крый Божа...».

Кебіч мае ня мала аднадумцаў і цяпер. Дык вось гэты «крый Божа...», пад якім, думаю, маецца ўяўны напад з Захаду, гэты самы «парасон абароны ці бясьпекі», каму ён будзе небясьпекай, калі не Беларусі. «Парасон» будзе абаронай для Масквы й цэлае Расеі, а сьмяртэльнаю пагрозаю для ўсяе Беларусі. Наш беларускі народ перажываў не адзін раз, калі наша краіна, для зусім нам чужых спраў, адыгрывала ролю «парасона». А колькі Беларусі гэты «парасон» каштуе? А колькі ён займае зямлі сялянскае? Колькі каштуе утрыманьне будынкаў, дарог і г.д...

Калі сп. Кебіч і ягоныя аднадумцы адказваюць, што не «прадаюць» Маскве нашу незалежнасьць, а наадварот «ратуюць» яе толькі ў саюзе перш за ўсё з Расеяй, дык радзім ім ўважна прачытаць заявы Затуліна дый шмат іншых, калі ня ўсіх, расейскіх правадыроў. Што сьвет лічыць за «гонар» сябраваць з Расеяй – гэта ня ёсьць нічым дрэнным ні адмоўным, але «сябраваць» пад уладай Расеі, пад ейным ярмом – гэта наша нацыянальная сьмерць. Ці-ж мы не маем пражытае, некалькістагадняе горкае практыкі гэтага «сяброўства»? Нажаль беларускія палітыкі-масквафілы, ня хочуць ні ведаць ні нашага мінулага, ні таго, што «сувязі» з Масквой далі Беларусі.

Ня так даўна сьвет быў сьведкам атрыманьня мандату ад народу, уваходам у прэзыдэнства сп. Нэльсона Мандэлю ў Паўднёвай Афрыцы. Чалавек, які праседзеў 27 год у турме не адрокся свайго ідэалу служыць свайму народу, аб чым ён зь вялікім гонарам й эмоцыяй публічна заявіў падчас цэрымоніі інвэстытуры. Трэба было бачыць як ганарыліся новавыбраныя парлямантары. І, урэшце, сам народ з радасьцю прымаў гэтую падзею-перамогу пасьля 300-ай няволі. Гледзячы на ўсё гэта ў мяне, мімаволі, перакідалася думка на маю родную Беларусь, дзе вялікая частка нашых дэпутатаў аплёўваюць усё беларускае і нават беларускі народ і нехаваючыся заяўляюць: калі не адбудаваць былы саюз, дык далучыць Беларусь да Расеі.

**Я. Жучка**

# БЕЛАРУСКАЕ СЬВЯТА Ў ВАШЫНГТОНЕ

Багата й цікава адзначалася ў Вашынгтоне бадай што найважнейшае для ўсіх нас сьвята — Дзень Незалежнасьці, арганізаванае амбасадай Рэспублікі Беларусь.

У адрамантаваным і прыгожа аздобленым у гонар угодкаў асабняку на Нью-Гэмпшыр авеню, замежных дыпляматаў, гасьцей і прысутных вітаў пасол Беларусі ў ЗША спадар Сяргей Мартынаў з жонкай і супрацоўнікамі амбасады.

Ушанаваць дзень Незалежнасьці ў Вашынгтон прыехала дэлегацыя клііўленскіх беларусаў на чале са старшынём мясцовага аддзелу БАЗА сп. Янкам Ханенкам і Анатолем Лук'янчыкам.

Актыўны ўдзел у нефармальнай дыскусіі па праблемах і пэрспэктывах разьвіцьця беларускай дзяржаўнасьці, рэфармаваньня эканомікі і ўмацаваньня дэмакратычных інстытутаў маладой сувэрэннай дзяржавы узялі сп. сп. Русэль Завістовіч, Алеся Кіпель, Юрка Азарка.

Цікавыя выданьні аб Беларусі на ангельскай мове прапанавала прысутным незалежная выдавецкая кампанія «Тэхналёгія» зь Менску.

Асаблівай увагай у гэты сьвяточны вечар карысталася беларуская ваенная дэлегацыя, што знаходзілася ў ЗША на традыцыйных ужо перамовах у рамках Двухбаковай камісіі па вайсковым пытаньням. Прычынай таму была перш за ўсё новая і вельмі прыгожая форма афіцэраў зь бел-чырвона-белым сьцягам на рукаве і пагонаю ў какардзе, а таксама іх высокі ўзровень адукацыі і добрая ангельская мова.

Сьвяткаваньне ўгодкаў незалежнасьці ў Вашынгтоне зацягнулася да позьнага вечару.

Дзякаваць Богу, гэтае вялікае сьвята становіцца традыцыйным і шырака адзначаецца як на Бацькаўшчыне, гэтак і за яе межамі. **Вацлаў Багдановіч**

# КААЛІЦЫЯ ЦЭНТРАЛЬНАЙ І ЎСХОДНЯЙ ЭЎРОПЫ

У 1993-м годзе ў Вашынгтоне паўстала новае аб'еднаньне этнічных групаў Амэрыкі — «Кааліцыя Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы». Неабходнасьць у Кааліцыі была выклікана жаданьнем арганізацыяў этнічных групаў дапамагчы сваім братам у незалежных краінах колішняга СССР і былых сяброў Варшаўскага пакту. Лічылася, што новастворaныя незалежныя дзяржавы, якія паўсталі пасьля распаду СССР, і дэкамунізаваныя краіны цэнтральнай Эўропы павінны мець сваіх прыхільнікаў, якія ня толькі будуць бараніць іх інтарэсы перад урадам Злучаных Штатаў, але й рабіць уплыў на стварэньне блізкіх адносінаў паміж Амэрыкай і краінамі цэнтральнай і усходняй Эўропы.

За апошні год абставіны рэзка зьмяніліся. Расейскія кіраўнікі ўсё больш і больш адчынена гавораць пра нейкія спэцыяльныя правы, якія, быццам, мае Расея, каб бараніць правы сваіх грамадзянаў, што жывуць у незалежных дзяржавах, створаных пасьля распаду СССР. Гэта выклікала неабходнасьць узьдзеяньня Кааліцыі на палітыку Злучаных Штатаў у адносінах да краінаў цэнтральнай і усходняй Эўропы. Кааліцыя лічыць, што ў эканамічнай і палітычнай дзейнасьці, Злучаныя Штаты Амэрыкі павінны падтрымоўваць незалежнасьць і дэмакратычны лад новастворaных і дэкамунізаваных дзяржаваў, рашуча адкідаючы вялікадзяржаўныя прэтэнзыі Расеі да гэтых дзяржаваў.

Да Кааліцыі належаць амэрыканскія арганізацыі наступных этнічных групаў: армянаў, баўгараў, беларусаў, мадзяраў, латышоў, летувісаў, палякаў, румынаў, славакаў, украінцаў, чэхаў і эстонцаў. Ад беларусаў да Кааліцыі належыць і прымае ўдзел у пасяджэньнях новае арганізацыі Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі.

**Расьціслаў Завістовіч**

*З жыцьця ў Чыкага*




*Вера Рамук, др. Вітаўт Рамук, Губэрнатар Джым Едгар*

Губэрнатар штату Ілліной, Джым Эдгар ідзе сёлета на перавыбары. Беларуская грамада Чыкага шырака падтрымвае Губэрнатара Эдгара, які быў заўсёды добрым прыяцелем беларусаў.

## ЗВАРОТ ДА ЎСІХ БРАТОЎ-БЕЛАРУСАЎ ДЫЯСПАРЫ

Апошнія падзеі на Бацькаўшчыне яскрава пераконваюць у тым, што нашыя спадзяваньні на хуткае здабыцьцё Беларусьсю сапраўднай незалежнасьці не спраўдзіліся. Усё гэта вымагае ад нас яшчэ больш актыўнай працы на карысьць Беларускага Адраджэньня, вымагае ўмацаваньня нашых суполак.

Мы жывём у вольнай, дэмакратычнай краіне. Мы маем магчымасьць захаваць сваю культуру, сваю веру. І мы рупімся аб гэтым. Гэта яскрава адлюстравана і ў Статуце Згуртаваньня Беларусаў у Квэбэку. Нашая мэта: захаваньне здабыткаў беларускай культуры, захаваньне сваёй мовы, вывучэньне нашай гісторыі й рэлігіі, рэпрэзантацыя беларускай культуры нацыянальным асяродкам у Квэбэку.

У нас людзі ёсьць, і ёсьць даволі шмат, але нам бракуе памешканьня дзе мы маглі-б стварыць свой Беларускі Рэлігійна-Грамадзкі Цэнтр, які стаў-бы тым магнітам, што прыцягнуў да нашай супалкі яшчэ больш беларусаў, асабліва новапрыбылых. Галоўная Управе Згуртаваньня Беларусаў у Квэбэку й Парафіяльная Рада Парафіі Збавіцеля Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Монтрэалі выканала накаторую працу па набыцьцю памешканьня, нашай «Беларускай Хаткі». Ужо сабрана пэўная колькасьць грошай, але іх недастаткова для набыцьця маёмасьці.

Менавіта таму мы зьвятаемся да вас з просьбай аб дапамозе. Мы ня просім міластыні, але патрабуем вашай падтрымкі. Мы просім пазычыць грошы, па адной тысячы даляраў ад асобы. Калі маёмасьць будзе набытая, то па пэўным часе, па магчымасьці, пазычкі будуць вярнатца. Усе, хто пазычае грошы, набываюць сваю долю ўласнасьці, становяцца сябрамі нашай грамады. Калі хто мае магчымасьць ахвяраваць нейкую суму — будзем ім вельмі ўдзячны.

Мы маем падтрымку Урадаў Канады й Квэбэка, паколькі яны стаяць за захаваньне этнічных групаў. Але мы патрабуем і вашай дапамогі. Мы зьвяртаемся да ўсіх суродзічаў-Беларусаў усіх веравызнаньняў, а таксама і іх нашчадкаў, каб падтрымалі нас на моцы сваей Веры й Любві да Бога, да Бацькаўшчыны. Дапамажыце нам захаваца, захаваць свае традыцыі, сваю апрычонасьць.

Пасьля зьмяшчэньня гэтага звароту ў газэце «БЕЛАРУС» мы будзем зьвяртацца да вас, каб абмеркаваць умовы пазычкі. У іншым выпадку, калі жадаеце, можна пасылаць чэкі ў банк, на наступны адрас:

Byelorussian Ass. of Prov. Quebec
c/o Bank of Montreal
1100 Blvd. Labelle,
Chomedey, Laval, (Quebec),
H7V 2V5

Просім зьвяртацца да аднаго з вызначаных сяброў Галоўнай Управы ці Парафіяльнай Рады, каб падпісаць умовы пазычкі, а таксама калі будуць пытаньні, ці будзе патрэбна больш інфармацыі:

**Галоўная Управа ЗБуК:**

1. Старшыня – Анатоль Хрэноўскі (514) 973-1639
2. Заступнік старшыні – Валодзя Бельмач (514) 738-2634
3. Сакратар – Гэлена Хрэноўская (514) 973-1639
4. Скарбнік – Рыгор Хрэноўскі (514) 973-1639
5. Кантралёр – Ліза Сакаўчук (514) 689-0750
6. Сябра – Юрка Акула (514) 684-6679
7. Сябра – Валодзя Дрозд (514) 279-1689

**Парафіяльная Рада:**

1. Першы Ярарх Бапц Мітрапаліт Мікалай (416) 690-1938
2. Старшыня – Раман Кардонскі (514) 489-3504
3. Сакратар – Ларыса Хрэноўская (514) 973-1639
4. Скарбнік – Фёдар Сакаўчук (514) 689-0750
5. Сябра –Алесь Мяцеліца (514) 374-3924
6. Сябра – Валодзя Бельмач (514) 738-2634

**ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ**

**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ**
**запрашаюць беларускае грамадзтва на**

### 21-Ю СУСТРЭЧУ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ,

**якая адбудецца сёлета ў Labor Day Weekend**
**3-5 верасьня ў ТОРОНТО, Канада**

**ТЭМА СУСТРЭЧЫ**

***Сучаснае палажэньне ў Беларусі і***

**Роля Беларусаў Канады і ЗША ў беларускім нацыянальна-палітычным працэсе:**

*Курапаты — Беларускі Голокост.*
*Накіраваньне усіх нашых сілаў у адно русло.*
*Узаемдзеяньне паміж старэйшым і малодшым пакаленьньнем.*
*Чарнобыльская трагэдыя і бяда Беларусі.*
*Наш уплыў на ўрады Канады і ЗША у адносінах дапамогі Беларусі.*

**ПРАГРАМА СУСТРЭЧЫ:**

**Субота 3-га верасьня:**

**гадз. 2 па паўдні — *АДКРЫЦЬЦЁ СУСТРЭЧЫ***
*Беларускі Рэлігійна-Грамадзкі Цэнтар*
*524 St. Clarens Ave., Toronto*

**гадз. 2.30 па паўдні — *ПРАЦОЎНЫЯ СЭСІІ***

**гадз. 8.30 вечара – *БАЛЬ СУСТРЭЧЫ***
*TRIUMPH HOWARD JOHNSON PLAZA HOTEL*
*2737 Keele Street, Toronto, Ont. Tel. 416-636-4656*

**Нядзеля 4-га верасьня:**

**гадз. 9.30 – БАГАСЛУЖБА**

**гадз. 12.30 – АБЕД У БРГЦ**

**гадз. 3 па паўдні — УРАЧЫСТЫ СХОД СУСТРЭЧЫ І КАНЦЭРТ**
*TRIUMPH HOWARDJOHNSON PLAZA HOTEL*
*2737 Keele Street, Toronto, Ont. Tel. 416-636-4656*

**гадз. 8 вечара — *СЯБРОЎСКІ ВЕЧАР***
**Беларускі Рэлігійна-Грамадзкі Цэнтар**
*524 St. Clarens Ave., Toronto, Ont.*

Арганізатары Сустрэчы просяць удзельнікаў сваечасова паведаміць пра намер удзелу ў Сустрэчы дзеля забясьпечаньня мейса начлегу.

Па інфармацыі просім зьвяртацца: in Cleveland – J. Chanienka (216) 781-7231; in New York – A. Mickievich (212) 271-8015; in Highland Park – New Brunswick – J. Azarko (908) 545-6654; in Toronto – A. Maksimiuk (416) 769-3650; in Montreal – A. Chrenowski (514) 973-1639; in Ottawa – J. Survilla (819) 770-2783; in Chicago – Dr. V. Ramuk (312) 745-8916.

## НАРАДЖАЕЦЦА ТРАДЫЦЫЯ

Доўгія гады замоўчвалася творчасьць і грамадзкая дзейнасьць выдатнай дачкі Беларусі Ларысы Геніюш. Яна пражыла нялёгкае жыцьцё самааданага служэньня Беларусі і паэтычным словам, і грамадзянскай непахіснасьцю. Лёс правёў яе па сталінскіх турмах, этапах, перасылках, лягерах і доўгіх гадох ціхага цкаваньня на Радзіме.

Апошнім часам творчасьць Л. Геніюш знаходзіць сваіх удзячных чытачоў: друкуюцца вершы, выдадзеная кніга ўспамінаў «Споведзь».

Значнай падзеяй у культурным жыцьці стаў спэктакль «Белы сон» паводле твораў Л. Геніюш, пастаўлены тэатрам «Зьніч», кіруе якім выдатная беларуская актрыса Галіна Дзягілева. Менавіта яна увасобіла на сцэне вобраз Ларысы Геніюш. Яшчэ ў 1992 годзе нарадзілася ідэя штогодна пачынаць тэатральны сезон тэатру «Зьніч» спектаклем «Белы сон» у Зэльве, дзе апошнюю чвэрць стагодзьдзя пражыла Ларыса Геніюш. Так упершыню была ушанаваная памяць паэткі. У Зэльву разам з тэатрам прыехалі пісьменьнікі зь Менску й Гародні. На наступны, 1993 год, у дзень памяці Л. Геніюш у Зэльве ўжо было шматлюдна. Да тэатру «Зьніч» і пісьменьнікаў далучыліся грамадскія арганізацыі — Жаночы хрысціянска-дэмакратычны рух Беларусі і «Бацькаўшчына», жыхары Зэльвы і наваколья, замежныя госьці.

Сёлета тэатр «Зьніч» і Жаночы рух будзе ладзіць дзьве імпрэзы памяці Ларысы Геніюш — 9-га жніўня ў Менску і 22-га жніўня ў Зэльве. Паўстала ініцыятыва і робіцца намаганьні на адкрыцьцё музэю Л. Геніюш у доме, дзе жыла паэтка.

Традыцыя нарадзілася. Бог дасьць, а мы будзем рупіцца, каб 9-га жніўня быў адзначаны ў календары Беларусі днём усенароднай памяці і ушанаваньня славутай беларускай дачкі Ларысы Геніюш.

**Людміла ПЕЦІНА**
*Старшыня Жаночага хрысьціянска-дэмакратычнага руху Беларусі*

*З жыцьця ў Лёндане*

## 48-мы Зьезд ЗБВБ

11-га чэрвеня сёлета ў Лёндане адбыўся 48-мы гадавы зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Праца зьезду праходзіла у залі Беларускае Бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Адчыніў зьезд старшыня ЗБВБ сп. Я. Міхалюк, прывітаўшы ўдзельнікаў і гасьцей з Беларусі ў тым ліку і амбасадара Рэспублікі Беларусь сп. У. Сянько.

У прэзыдыюм зьезду былі выбраныя сп. М. Шведзюк — старшыня, сп-ня др. І. Гурло і сп. А. Здbadковіч — сакратары. Амбасадар У. Сянько прачытаў прывітальны ліст ад Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, выказваліся цёплыя словы вітаньня і высокая ацэна усім закладчыкам ЗБВБ, а гэтаксама падзяка беларускаму Камітэту Дапамогі Ахвярам Радыяцыі ў Лёндане.

Сп. А. Здановіч зачытаў прывітаньні ад сябра ЗБВБ сп. Я. Калбасы ды ад а. А. Надсана. Апрача слоў прывітальных, а. А. Надсан заапэляваў аб грашовай дапамозе ахвярам радыяцыі ў Беларусі. На Фонд ахвярам радыяцыі было сабрана звыш сотні фунтаў.

Пасьля справаздачных дакладаў была выбраная галоўная ўправа у складзе: Я. Міхалюк — старшыня, А. Здановіч і С. Дзейка — заступнікі старшыні, др. І. Гурло — сакратар, П. Асіповіч — скарбнік і Я. Ясьвіловіч — сябра. У наглядную раду і сяброўскі суд увайшлі М. Баяроўскі, С. Буткевіч і М. Сенько.

**А. Здановіч**

## ПАГРОЗА ВЫКІНУЦЬ ПОЛЬСКІХ КСЯНДЗОЎ ЗЬ БЕЛАРУСІ

Выдаваная ў Лёндане ўплывовая каталіцкая газэта The Tablet (16.07.94) падала пра выказваньне новаабранага прэзыдэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі аб тым, што ён мае намер спыніць каталіцкі «экспансіянізм». Лукашэнка, які спрыяе блізкім сувязям з Расеяй, піша «Таблет», лічыць каталіцкую царкву чужой, заходняй і, упаасобку, польскай, імпартаванай у Беларусь.

Бальшыня каталіцкіх сьвятароў на Беларусі, паясьняе газэта, карыстаецца польскай мовай у багаслужбе ды ў пропаведзях. І на працягу апошніх трох гадоў вялікая колькасьць польскіх сьвятароў наведвалі Беларусь пад выглядам турыстаў, а фактычна як місіянеры. Цяпер у Беларусі знаходзіцца каля 120 такіх «наведнікаў», інфармуе газэта, якія, калі Лукашэнка выканае сваю пагрозу, могуць быць за кароткі час адасланыя назад у Польшчу.

Уніяцкая царква, піша далей «Таблет», можа таксама пацярпець. Пазыцыя гэтай царквы аніяк не палепшала апошнім часам у выніку назначэньня паляка, манаха-марыяніна Сэргіюша Гаека на становішча візытатара ад Усходняй Кангрэгацыі ў Рыме для беларусаў грэцкага абраду. Паводля «Таблета», брат Гаек бачыць сваю ролю аналягічнай да ролі біскупа, і ўсе гэта можа быць лёгка вытлумачана прарасейскай Праваслаўнай царквой, піша лёнданская каталіцкая газэта, як «довад», што уніяты ня менш за рымакаталікоў становяць польскую духовую пятую калёну.

*ДА ДЫСКУСЫІ*

## ПРАПАНОВА ЗЯМЕЛЬНАЕ РЭФОРМЫ

Распусьціць калгасы і саўгасы — страшная пэрспэктыва для тых, хто корміцца за кошт сумленных працаўнікоў. Эканамісты, аграномы, заатэхнікі, брыгадзіры і кладаўшчыкі, нават мэханізатары баяцца браць зямлю і сваей працай і сваім розумам весьці ўласную гаспадарку. Розныя эканамісты з навукова-дасьледчых інстытутаў, камуністычныя ідэолягі выказваюць упэўненасьць, што калі распусьціць цяперашнія калгасы і саўгасы, то Беларусь апынецца ў цяжкім становішчы.

Але выйсьце, на мой погляд, ёсьць. Выйсьце такое, якое задаволіць амаль усіх.

Трэба абвесьціць, што зямля належыць народу (не дзяржаве, бо дзяржава — гэта амаль заўсёды чыноўнікі, якія кіруюць краінай як-бы ад імя народу, але на самой справе народ яны лічаць быдлам, з паступаюць так, як ім хочацца).

Насамперш абвесьціць аб тым, што зямля кожнага калгасу, саўгасу падзяляецца на дзьве часткі — дзяржаўныя маёнткі і сялянскія надзелы. Адразу не трэба вызначаць, колькі пойдзе на надзел, а колькі на маёнтак.

У дзяржаўных маёнтках будуць прапаваць тыя, хто маральна і фізічна не хоча стаць аднаасобнікам (фармэрам, хутаранінам). У маёнтку будуць вырошчваць сартавое насеньне, пародзістую жывёлу, рамантаваць тэхніку, у тым ліку і для аднаасобнікаў; тут будуць аграном, вэтэрынар, заатэхнік, якія будуць працаваць на маёнткаі і на хутаран. У маёнтках будуць перапрацоўваць сваю і хутаранскую сельскагаспадарчую прадукцыю. Адразу пераважная большасць прадукцыі для Рэспублікі Беларусь і будзе ствараца ў такіх маёнтках. У меру неабходнасьці зямля для хутаран будзе адчужацца з гэтых маёнткаў, і не як міласьціна таго ці іншага чыноўніка, а як праўны і справядлівы акт.

Зямлю ў асабістае карыстаньне ні ў якім разе нельга даваць дарма. Трэба ўстанавіць разумную цану, адразу браць за зямлю да 10% яе вартасьці, а астатнюю — за выплату на працягу 50-ці колькі гадоў. Калі доўг ня сплочваецца — адабраць.

Цану зямлі трэба ўлічваць з каэфіцыентам на эканамічную ўдаленнасьць, наяўнасьць дарогаў, на якасць зямлі.

Вылучэньне ўчасткаў пад хутары — справа складаная, асабліва для тых вёсак, дзе жыве многа людзей. У мяне ёсьць прапанова, як дзяліць зямлю ў такіх вёсках, але гэта ўжо тэма для наступнае дыскусіі.

**Якуб Якубоўскі,**
*былы ст.інжынер-глебазнавец Інстытуту Глебазнаўства, пэнсіянэр.*

## З рэлігійнага жыцьця на Беларусі

Менск. Доўгія гады адзінай праграмай на Беларускім радыё, дзе можна было пачуць пра рэлігію, была штотыднёвая 30-хвілінная праграма «Для веруючых і няверуючых», якую ад самага пачатку яе заснаваньня вёў радыёжурналіст Мікола Ермалюк. Шмат гадоў яна мела выразны атэістычна-ваяўнічы характар. Але ў апошнія гады праграма стала сапраўды рэлігійнай, папулярызавала Біблію й веды аб хрысьціянстве. Мікола Ермалюк падрыхтаваў 800 выпускаў «Для веруючых і няверуючых» і цяпер вырашыў пайсьці на пэнсію.

Яго заменіць малады, але досыць вядомы ўжо радыёжурналіст каталік Эдвард Тарлецкі, які дагэтуль рыхтаваў рэлігійныя праграмы на радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная», што ў пачатку чэрвеня была забароненая камуністычным урадам за выказваньне апазыцыйных поглядаў. З закрыцьцём радыёстанцыі перастала выходзіць праграма для праваслаўных вернікаў «Артадоксія» і каталіцкая праграма «Дабравешчаньне».

**Ігар Іваноў**

**Натальля Орса**

# УСПАМІНЫ

(ПРАЦЯГ. ПАЧАТАК У № 411)

*ПАВЕСТКА*

Аднаго разу паклікала мяне кіраўнічка і сказала, што сястра званіла й прасіла, каб я прыйшла да яе ідучы ў гімназыю, або са школы, пасьля лекцыяў. Я вырашыла, што мусіць важная справа, хуценька сабралася, каб управіцца перад лекцыямі. Вельмі-ж нецярпелася даведацца ў чым справа. Як толькі я ўвайшла ў хату, сястра паказала мне паперку, якую я не магла, нажаль, прачытаць, бо напісаная яна была па-беларуску, а сястра глядзіць на мяне уважна й пытае: «Можа ты дзе што зрабіла?! Чаму прыслалі павестку? Заўтра рана схадзі й даведайся ў чым справа? А можа ты ня хочаш прызнацца? Я расплакалася й пачала даказваць, што нічога не зрабіла й нічога ня знаю. Даючы гэтую «павестку» сястра загадала нікуды не заходзіць і ні з кім не гаварыць аб гэтым.

Выйшаўшы ад сястры, я вырашыла ня йсьці ў школу, а шукаць «суд», бо гэтая справа важнейшая за школу. Ня памятаю на якой вуліцы, блізка Сухаравай вежы, знайшла я патрэбны мне нумар дому, але ніяк не магла дастаць званок, каб пазваніць. Паклала на ходніку кніжкі, каб вышэй было. Падскоквала, але не могла дастаць, аж нейкі чалавек, ідучы, запытаў, што мне трэба. Даведаўшыся аб маім клопаце пазваніў і пайшоў, а я й далей стаяла, бо ніхто не адчыняў. Ужо наважылася пакінуць ды йсьці, аж пачула ў сярэдзіне нейкі рух, ды дадумалася пастукаць нагою ў дзьверы. Пачула жаночы голас: «Адчынеце дзьверы — нехта стукае», а ў адказ мужчынскі голас — «Няхай звоніць, а ня стукае — на тое і званок ёсьць». Я пастукала яшчэ мацней. Нарэшце, адчыняюцца, дзьверы, і нейкі малады мужчына запытаў чаму я не званю, а стукаю. Я сказала, што не магла дастаць званка, а на пытаньне, што мне трэба, паказала «павестку» й пачала гаварыць, што мы нічога не зрабілі й ні ў чым не вінаватыя — чаму нас клічуць у суд.

Мусіць я мела вельмі перапалоханы выгляд, бо ён пачаў заспакойваць, што ніхто нас у суд ня кліча й мы дарма перапалохаліся, ды запрапанаваў зайсьці ў сярэдзіну — ўсё вытлумачыць. Я сказала, што сястра загадала нікуды не заходзіць і нікому нічога не гаварыць.

«Як-жа я табе, дзяўчынка, раскажу чаму вам выслалі павестку, калі ты ня хочаш зайсьці?» — сказаў мужчына. У гэты момант падышла нейкая жанчына й пачала ўгаворваць, каб я не баялася зайсьці. Можа ўгаворы жанчыны падзейнічалі, а можа, пачуўшы родную мову, набралася адвагі й зайшла. Там было 18 асобаў жанчын і мужчын. Яны зацікавіліся мной і пачалі шаптацца міжсобку, а я ўсё аглядалася на дзьверы, каб ведаць куды ўцякаць. Адна з прысутных дзяўчат гукнула: «Дзядзька Купала, ідзеце паглядзеце, якую маем сьпявачку!» На гэты воклік зь нейкай баковачкі выйшаў мужчына й падыйшоўшы да мяне ўсьміхнуўся ды кажа — «Вось добра, што ты прыйшла!» Я сказала — «Здраствуйце» і зрабіла рэвэранс (у гімназіі на гэта зьвярталі вялікую ўвагу). Мужчына, што адчыніў мне дзьверы, са злосьцю гукнуў — «Кажы добры дзень, а ня дрысьце, няхай маскалі др...цьб!» Іншая дзяўчына зрабіла яму заўвагу, што ён ужывае брыдкія словы. — Ты, Васілёчак, канфузіш яе, гэта-ж яшчэ дзіця!» А ён у сваю абарону — «Не Васілёчак, а Базылёчак, — няхай гаворыць па-нашаму!» Я ня знала, як гэта па-нашаму, а той дзядзька мне вельмі не спадабаўся, і голас ягоны я запомніла на ўсё жыцьцё.

Купала зусім іначай абыйшоўся са мною: перапытаў, як зваць, адкуль, што робіць тата, мама, я ўсё расказала, а ён слухаў уважна, а як пачала гаварыць, што мама памерла дык расплакалася. Ён пачаў мяне суцяшаць, пасадзіў на калені, а потым пачаў пытаць, як я гаварыла дома з татам і мамай. Я ня ведала што сказаць. Ён, мусіць, пабачыў, што я не разумею чаго ён хоча, ды запытаў, «Як у вас гаворац калі прыходзяць у хату?» Я сказала, што ня ведаю. — «Ну як зьбіраюцца мужчыны пакурыць, даведацца пра навіны, — што кажуць, як уваходзяць у хату? — «Добры вечар». — «Ну а ў дзень як кажуць?» — «У дзень у нас усе працуюць на полі, дык у хату ня ходзяць».

Тут выбух сьмеху. Я ня знала чаму ўсе сьмяюцца й запытала, што я кепскае сказала, што ўсе сьмяюцца? Купала адказаў, што я добра сказала бо, запраўды, ў нас у дзень усе працуюць, і пачаў пытаць, як я гаварыла з мамай, ці так як людзі гаворац у Маскве ці так як ён гаворыць. На мой адказ «так як гаворыце Вы» сказаў — «Ну то й добра, цяпер будзем гаварыць так, як гаварылі з мамамі.» У знак згоды, я кіўнула галавою, а Купала пачаў тлумачыць мне — чаму выслалі «павестку». Хочучы арганізаваць хор, пачалі зьбіраць сьпевакоў і нехта падаў нашае прозьвішча й адрас, таму й выслалі павестку; сказаў каб абавязкова прыйшла ў сераду на 5-ю гадзіну з сястрою і каб не баялася гаварыць так як гаварыла з мамаю.

Выйшаўшы й пабачыўшы на Сухара-

# У ПОШУКАХ ЭМІГРАНЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

*(Працяг; пачатакі у № 404, 407, 410)*



Вясной аднавіліся пошукі, лепш сказаць паездкі, бо пошукі ніколі не перапыняліся й не перапыняюцца.

На сьвяткаваньні 25-га Сакавіка мелі гонар быць у Канадзе. Выкарысталі свой побыт там, каб яшчэ сёе-тое праверыць і пераглядзець у бібліятэцы Уладыкі Мікалая, ды папоўніць накатарыя недастаючыя матар'ялы зь бібліятэкі спадарства Пашкевічаў. Дарэчы тут зазначыць, што сп. М. Пашкевіч ласкава дэкляраваў сабраць усю сваю эміграцкую пэрыёдыку і перадаць яе БІНІМу.

Гэтаксама мелі добрую ўдачу знайсьці колькі важных публікацыяў у зборах спадарства Ганькоў, у якіх мы гасьцявалі.

У красавіку наведалі сп-ню Марыю Кажуру і пераглядзелі бібліятэку нябожчыка Пётры Кажуры. Знайшлі вельмі шмат патрэбных матар'ялаў.

Сп. Аляксандар Міцкевіч перадаў збор сваіх эміграцкіх друкаў, сярод іх некалькі кніжкаў, якія былі і неспадзеўкай і навінкай.

Сп. Браніслаў Даніловіч час-ад-часу перадае добра ўпарадкаваныя, дабраныя часапісы, апошні — амаль поўны камплет «Летапісу».

Самай важнай «пашуковай экспэдыцыяй» у гэтым вясноваа-летнім сэзоне была, аднак, паездка ў Чыкага.

Ветлая, гасьцінная хата спадарства Рамукоў была нашай базай, ды іхнымі стараньнямі былі наладжаныя розныя спатканьні й візыты.

Насамперш візыта ў Бібліятэку пры Царкве Хрыста Збаўцы. Нам было вельмі важна ўдакладніць даты публікацыяў парафіі, як Da Zlucennia, Harbinger. Лісткі да Беларусаў, якія выдаваў у 50-6-ых гадох а. Ян Тарасэвіч. Грунтоўную інфармацыю мы атрымавалі ад а. Джозэфа Сыру, які нас гэтаксама пазнаёміў зь некаторымі рэлігійнымі публікацыямі, дагэтуль нам ня ведамымі. У часе працы ў царкоўным архіве натрапілі на вельмі цікавы рукапіс канца 1940-х гадоў — пераклад Трыстана на беларускую мову. Яшчэ не ўдалося устанавіць зь якой вэрсіі быў зроблены гэты надзвычай удалы пераклад, але ў хуткім часе плянуецца больш дэталёвае апісаньне гэтай знаходкі.

Сп. Нікодым Жызьнейўскі даў нам інфармацыі, як пра выданьні беларускай радыёвай праграмы «Нёман», гэтаксама і пра іншыя беларускія друкі чыкагскай грамады.

Бібліятэчку пры Царкве Сьв. Юр'я мы наведалі ў нядзелю й мелі нагоду пабыць на службе й малебню у адзначэньне сьвята Незалежнасьці Рэспублікі Беларусь, якую адслужыў а. Алег Міраковіч. Матар'ялаў у бібліятэчцы і архівах захавалася ня шмат, але тоесёе патрэбнае й тут знайшлі, і мы ўдзячныя за гэта сп. Міколу Латушкіну і Міхасю Каленіку.

У гэты-ж дзень мелі вялікую прыемнасьць наведаць спадарыняў Ірэну Пануцэвіч і Людвіку Бяленіс. Гэтта мы знайшлі сапраўды клады — архівыбібліятэку Будзькаў, Пануцэвічаў і Бяленісаў — дабраўпарадкаваныя некалі Чаславам Будзькам і Вацлавам Пануцэвічам, пераплеценыя часапісы, кнігі, брашуры. Гэткага багацьця беларускага друку мы й не спадзяваліся, тым больш, што ўжо шмат матар'ялаў было перададзена ў бібліятэку Скарыны ў Лёндан. Тут былі й лягерныя публікацыі Ангельскай зоны, і чыкагскія друкі Пануцэвіча й Будзькі, і шмат іншых эміграцкіх друкаў.

Папрацавалі мы ў іх да вечара і папрасілі дазволу прыйсьці яшчэ заўтра. Мілыя спадарыні Ірэна й Людвіка, зь якімі мы цяпер бліжэй пазнаёміліся й знайшлі нейкую асаблівую прыязьнь, шмат дапамагалі нам у працы, расказвалі пра сваю сям'ю, ды бязупынна нас частавалі. Працуючы тут мы адчулі вялікую інтэлектуальную сямейную спадчыну.

У Веры й Вітаўта Рамукоў чуліся як дома. За гутаркамі, смачнымі пачастункамі, спатканьнямі й візытамі час праляцеў, што й не заўважылі; мы мелі прыемнасьць пазнаёміцца са сп. Ванкарэмам Нікіфаровічам і спадарствам Клейнэр-Парыч, ды правесьці зь імі вельмі цікавы вечар. У спадарства Рамукоў мелі гэтаксама нагоду праглядзець фільм пра Янку Купалу, У. Ігнатоўскага, Р. Шырму, які сп. М. Каленік атрымаў кагадзе зь Менску, тут і пагутарыць зь Міколам Прускім, які якраз у гэтым часе быў у Чыкага, і абмеркавалі колькі праэктаў.

Мелі гэтаксама вялікую прыемнасьць коратка наведаць сп-ню Эўдакію Жызьнеўскую, слаўную нашую вышывальніцу беларускіх лялек, крыху пагутарыць зь ёю і паслухаць успамінаў зь яе жыцьця.

Аж ня верыцца, што гэтак шмат зрабілася за тры дні. Гэта была адна з самых памысных і карысных паездкаў... і ў Чыкага яшчэ вернемся.

**Зора Кіпель**

*BELARUSIAN REVIEW*
*Vol. 6, No. 2, Summer 1994*

У багатым зьместам летнім нумары «Беларускага Агляду» на 26-х старонках уборыстага друку чытач знойдзе вострa актуальны матар'ял пра галоўныя падзеі і аспэкты беларускага жыцьця як на Бацькаўшчыне, гэтак і ў замежжы. У часапісе пададзены агляд прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі, у тым ліку біяграфічныя весткі пра новаабранага прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнку, а таксама насьветленыя цяжкія эканамічныя і палітычныя праблемы, зь якімі давядзецца мець справу маладому беларускаму прэзыдэнту. У нумары зьмешчаны тэкст выступленьня былога пасла Злучаных Штатаў Дэйвіда Суорца перад маладымі беларусамі ў Менску. Дадзены агляд кансультацыйнай дзейнасьці арганізацыі амэрыканскіх адвакатаў у Беларусі. Зьмешчаныя выказваньні старшыні БНФ З. Пазьняка пра дачыненьні Беларусі з Расеяй, а таксама пагляды прэзыдэнта Нацыянальнага Банку РБ С. Багданкевіча пра фінансавыя справы. Асобны артыкул знаёміць пра Эўрапейскі Гуманітарны Ўнівэрсытэт у Менску. У нумары чытач знойдзе весткі пра чарнобыльскія справы, беларускае жыцьцё за межамі Беларусі, цікавыя выпіскі з заходняга друку, лісты ў рэдакцыю, ілюстрацыі.

«Беларускі Агляд» — унікальная англамоўная крыніца актуальнае інфармацыі пра Беларусь. Найлепшая паслуга, якую Вы можаце зрабіць свайму знаёмаму палітыку ці журналісту, які цікавіцца пытаньнямі Ўсходняе Эўропы, гэта зьвярнуць ягоную ўвагу на «Беларускі Агляд», або яшчэ лепш — падпіцацца для яго на гэты часапіс у якасьці падарунку, як гэта ўжо зрабілі некаторыя руплівыя асобы (адзначаныя ў часапісе).

Адрас «Беларускага Агляду»: BR, P.O. Box 10353, Torrance, CA 90505. Fax No. (310) 373-0793.

---

вай вежы гадзіньнік, я пайшла дамоў, бо ў школу ўжо было позна. Пазнаёміўшыся з маімі прыгодамі, сястра са сваёю сяброўкаю (таксама беларускаю з Драгічына) пастанавілі хадзіць на сьпеўкі, калі будуць пачынаць а гадзіне 6-й, бо да 5-й працавалі. У назначаны дзень, ідучы са школы, я зайшла на сьпеўку і сказала, што сястра й яшчэ адна дзяўчына будуць хадзіць на сьпеўкі, але толькі калі будуць пачынацца а 6-й гадзіне, бо да 5-й мусяць працаваць. Усе вельмі ахвотна згадзіліся, асабліва пасьля, як я сказала, што сястра кіравала школьным хорам, а я таксама ўмею сьпяваць і знаю ноты, бо ў Янавічах вучылі. На гэтай першай сьпеўцы навучыліся сьпяваць дзьве песьні: «Чаму-ж мне ня пецць», а другую ня помню — нешта пра Данілу.

На наступную сьпеўку мы прышлі ўтрох. Якое-ж было расчараваньне, калі прачыталі запіску прымацаваную на дзьверах, што сьпеўка не адбудзецца, а калі ізноў сабрацца — будзе паведамлена. Ніякага паведамленьня мы не атрымалі, але праз нейкі час, калі я сустрэла адну харыстку на вуліцы, яна сказала, што Купала недзе мусіў пераехаць, а ён быў галоўным ініцыятарам-арганізатарам гэтага хору, дык усё і затрымалася зь ягоным ад'ездам.

Ня знала я тады нічога пра Купалу й нічога ня чула пра яго, а сустрэча зь ім засталася ў памяці, як прыемны момант майго жыцьця. Купала быў вельмі лагодны, уважлівы й вельмі цікавіўся ўсім. Доўга распытваў пра ўсё, а як я гаварыла, то вельмі ўважліва слухаў. Мне было прыемна, што ён гаварыў са мною, як з дарослаю. Даўжэйшы час пасьля гэтай сустрэчы мы толькі й гаварылі пра яго.

Купала не дамагаўся, не прасіў, а нават і не падгаворваў — сваім лагодным, дабрадушным і сьціплым падыходам да чалавека змушаў яго слухаць, пагоджвацца зь ім. Доўга гучэлі яго словы у маёй памяці: «Ну, то будзем гаварыць так, як гаварылі з мамамі». Праз гадоў дзесяць судзіў мне лёс сустрэцца ізноў зь ім — у іншым месцы й пры іншых абставінах.

## ПАВАРОТ НА БАЦЬКАЎШЧЫНУ

На Смаленскім вакзале разьвіталася зь сястрою і еду дамоў. Цягнік імчыць. Стаю і гляджу ў вакно, а думак поўная галава і ўсе кружацца каля дому. Апошні прыпынак. Выходжу з вагону. Нейкі чалавек падыходзіць і пытае, куды мне трэба; вырашылі дабірацца разам — будзе таньней. Праехаўшы кілёмэтраў 5–7 пабачыла акопы, бліндажы, калючым дротам укрэйзаныя абшары палёў, а хатаў няма, людзей таксама ня відно нідзе. Тут толькі першы раз мільганула думка: «А што, як і дома гэтакая пустэча». Усю дарогу далей перад вачыма стаяла гэтае спусташэньне. Прыехалі. Мой спадарожнік разьвітаўся і пайшоў, а я ня ведаю, што рабіць — ехаць назад ці заставацца. Цяжка было ўспрыняць халодным розумам ўсё пабачанае: хата без дзьвярэй, вокны пазабіваныя дошкамі, сьвірна, хлявоў няма.

Асабліва ўразіла мяне адсутнасьць склепу, зь якім былі зьвязаныя прыемныя успаміны зь дзіцячых гадоў. Сабраліся суседзі, ад іх даведалася, што тата й дзядзькі вывезены ў Горадзенскую губ. Тры кілёмэтры ад нас жыў яшчэ адзін татаў брат. Даведаўшыся, што ён ня вывезены, выпрашыла ісьці да яго. Дзядзька сказаў, што ўжо надумаўся быў ехаць шукаць бацьку, бо адзін чалавек яму сказаў, што ён павінен быць у Сакольніцы, або недзе блізка. — «Цяпер як ты прыехала, то, зараз-жа пасьля Каляд — паедзем, а на сьвята мусім быць дома».

Дні тры перад Калядамі ўскочыла ў хату суседка й сказала, што група людзей вярнулася з Горадзенскай губ. і паміж імі тата зь дзядзьмі. Паехалі, забралі іх і Сьвята правялі ў дзядзькі. Пасьля Новага Году ўзяліся прыводзіць хату ў такі стан, каб можна было ў ёй жыць. Уставілі дзьверы; найгорай было з вокнамі — ня можна было дастаць шкла, але і гэтую перашкоду пакаралі. Як запалілі ў печы, дк тата кажа: «Дзякуй Богу нябеснаму й тым, што не разьвярнулі печы, а потым залез на печ і пытае — «Дзеці! Няўжо-ж гэта я на сваёй печы?»

Многа гора й недаяданьня працярпелі мы тады. Голад, сьмерць на кожным кроку. Людзі падалі як мухі. Страх было сустрэцца з чалавекам — гаварыць з табой й тут-жа можа ўпасьці мёртвым. Такая барацьба з голадам цягнулася покуль не дачакаліся хлеба са свайго поля. Пры такой сытуацыі не магло быць і гутаркі аб прадаўжэньні навукі.

Тут мушу сказаць пару слоў, чаму людзі вёскі сядзелі ў сваіх хатах, а майго бацьку й братоў выселілі. Перад першай сусьветнай вайной эканамічны стан сялянаў быў цяжкі, ня было дзе зарабіць, хоць на найменшую патрэбу ў гаспадарцы. Царскі ўрад заахвочваў перасяляцца у менш заселеныя губэрніі і даваў усялякія дапамогі й грашовыя пазычкі на льготных умовах. Вось-жа шмат хто, шукаючы лепшага жыцьця, перасяляліся ў іншыя мясцовасьці. Тры сям'і, што жылі каля нас ліквідавалі свае гаспадаркі й пераехалі ў Сібір. Мой дзед з татам купілі іхныя пляцы. Гаспадаркі гэтых былі ня вельмі бедныя і пляцы іхнія вялікаватыя, дык атрымаўся досыць вялікі кавалак зямлі паміж нашай сядзібай і вёскай. Калі фронт пасунуўся й нямецкае войска заняло гэтую мясцовасьць, то ім спадабалася, што вясковыя будынкі аддаленыя і ў нашай сядзібе разьмясьціўся штаб. Бацьку й дзядзькоў выселілі й адправілі ў Горадзенскую губэрню.

*(Працяг будзе)*

# ДРУГІ МІЖНАРОДНЫ ФЭСТЫВАЛЬ

*Магілёў, 14-17 ліпеня 1994*

Іскры ўздымаліся ў начное неба з вогнішча, распаленага ля касьцёла Сьв. Станіслава (пабудаванага ў 17-м стагодзьдзі), недалёка ад якога на пляцоўны група евангельскіх сьпевакоў амэрыканскага стылю выконвала рэлігійныя гімны пад дабразычлівым наглядам ксяндзоў Уладыслава Бліна і Рамана Факсінскага, якія нядаўна прыбылі сюды з Польшчы, каб задавальняць рэлігійныя патрэбы навакольнага жыхарства. Натоўп мясцовае моладзі хістаўся з узьнятымі рукамі, задаволены відавочна новай формай духовага й музычнага дазнаньня. Дзякуючы намаганьням гэтых двух харызматычных і самаахвярных сьвятароў, пры падтрымцы з боку Фонду Джорджа Сораса ў Менску, фэстываль «Магутны Божа» як выглядае, станецца адной з галоўных музычных падзеяў Усходняй Эўропы, патэнцыяльным субратам шырака ведамаму штогадоваму фэстывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы ў Польшчы.

Незважаючы на чуткі пра байкот з боку расейскай праваслаўнай іерархіі ў Беларусі, у Магілёў прыбыло каля сарака хораў грэцкага абраду з Горадні, Калінінграду, Менску, Віньніцы, Жодзіна, Пружанаў, Баранавічаў і Краснадару, забясьпечваючы належнае прадстаўніцтва духовае спадчыны Ўкраіны, Беларусі й Расеі. Пастаўленыя перад споўненым фактам, улады Расейскай Праваслаўнай Царквы бласлаўілі падзею і прыслалі на фэстываль у ролі прадстаўніка праф. Віктара Роўду, дадаўшы пры гэтым дзівацкавізантыйскае патрабаваньне, каб хоры ўстрымаліся ад выконваньня сэрцавінна эўхарыстычных «Иже херувимы» і «Тебе поем». Просьба гэтая засталася аднак нявыкананай. Апрача праваслаўных, у фэстывалі ўдзельнічалі выдатныя хоры каталіцкага й евангельскага сьпеву зь Беластоку, Масквы, Варшавы і Чарнаўцоў, а таксама дзіцячыя хоры, салісты-сьпевакі і пап-групы.

Праграма фэстывалю была багатая й разнастайная. Для мяне найбольшай неспадзеўкай сталася натхнёнае выкананьне харавым калектывам зь сібірскага гораду Новакузьнецку (кір. С. Ліпавой) «О Божа Ўсяўладны» М. Равенскага (сл. Я. Золака), па-беларуску, гучна вітанае, і пераўзыйдзенае толькі, бадай, блізу беззаганным выкананьнем Куліковічавага «Плотию уснув» віньніцкім камэрным хорам-лаўрэатам (кір. В. Газінскі) з Украіны.

Любіцелі беларускай музыкі не маглі быць не задаволеныя ўвагаю, якую прысьвяцілі беларускія хоры нацыянальнай спадчыне. Пружанскі камэрны хор (кір. А. Драбышэўскі) выканаў «Ойча наш» і «Плотию уснув» М. Куліковіча, а таксама беларускія кантычкі «О Марыя Маці» і «Сеньня дар багаты». Горадзенскі хор «Дойлідства» (кір. Н. Булцевіч) прысьвяціў трацiну праграмы Куліковічавым «Милость мира» і «Достойно есть» нр. 1, тымчасам як менскі хор АН (кір. Т. Слабодчыкава, найранейшая прыхільніца беларускае царкоўнае музыкі ад часу незалежнасьці) сьпяваў ягонае «Достойно есть» нр. 2, «Малітву» А. Бандарэнкі ды магілеўскі напеў «Алілуя» зь 17-га стагодзьдзя. З асабліва багатай праграмай выступіў менскі хор-лаўрэат «Кантус» (кір. К. Насаеў) з выкананьнем па-беларуску цудоўнае «Херувімскае» нр. 1 Міхала Анцава (каля 1902 г.), «Милость мира» нр. 1 А. Туранкова (1913 г.) і на завяршэньне ласунак — Куліковічава з чыкагскава часу «Иже херувимы» нр. 1. Хор Гомельскага ўнівэрсытэту «Дзяньніца» таксама выступіў з праграмай кантаў і Куліковічавае царкоўнае музыкі. Гучнымі воплескамі прывіталі слухачы выкананьне менскім квартэтам «Чыcты голас» падляскі напеў «Отче наш» К. Кіслага.

Посьпехам карысталіся, адзначаныя ўзнагародай, салісты з Полацку і Санкт-Пецярбургу. У тым ліку менскі арганіст Ул. Неўдах і выдатны тэнар Беларускай Нацыянальнай Опэры Г. Палушух, што нагадвае італьянскага сьпевака Л. Паваротты.

Тэхнічна беззаганным было выступленьне прэстыжнага дзіцячага хору «Радуга» (кір. А. і Н. Ганьковы). Адным з найбольш прывабных нумароў праграмы было выступленьне валожынскіх школьнікаў, двух хлопчыкаў і дзьвюх дзяўчатак у нацыянальнай вопратцы, якія выканалі падборку добрых сучасных беларускіх гімнаў, напісаных шырака ведамай кіраўнічкай Марыяй Трапашка. Прываблівым было таксама выступленьне ансамблю «Крынічка» із скрыпкамі й цымбаламі, які сьпяваў канты па-беларуску, пад кіраўніцтвам «польскай» манашкі зь Пінску Крыстыны Янецкай.

На жаль, мне не давялося быць на папаўдзённай сэсіі рэлігійнай папулярнай музыкі, калі я прысутнічаў на грэка-каталіцкай літургіі, якую служыў у касьцёле Сьв. Станіслава а. Казімер зь Менску. Там выдатна сьпяваў хор «Унія» (кір. К. Насаеў) і група парафіянаў пад кіраўніцтвам гітарысткі Галіны Смаляк.

Сэсія пап-музыкі адбылася ў доме культуры Хімвалакно і, як выглядае, прайшла ў стылі мюзыкала «Ісус Хрыстос, супэрзорка».

На сустрэчы хормайстраў, якая прайшла пад старшынствам праф. Роўды, абмяркоўваліся пляны наступнага фэстывалю. Клаўся моцны акцэнт на пашырэньні беларускага рэпэртуару. Расейскія і ўкраінскія хоры вельмі зацікаўленыя, каб пашырыць свае веды ў гэтым кірунку. Вялікія цяжкасьці тымчасам з атрыманьнем копіяў нотаў. Выказваліся просьбы, каб у Менску была арганізаваная цэнтральная бібліятэка царкоўнае музыкі.

Вярнуўшыся ў Менск, я правёў вечар з двума кампазытарамі рэлігійнае музыкі, Сяргеем Бяльцюковым і Алегам Залатоневым. Яны далучыліся да кола сучасных кампазытараў, якое паступова пашыраецца — А. Бандарэнка, А. Хадоська, І. Мацеўскі і іншыя. Зерне, кінутае Анцавым, Туранковым і Валынчакам, падкормліванае на эміграцыі Равенскім і Куліковічам, як выглядае, ня ўпала на каменную глебу.

**Гай Пікарда**

---

**У Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва**

19-га ліпеня сп. Вацлаў Багдановіч зь Менску выступіў у Фундацыі ім. Пётры Крэчэўскага з аглядам апошніх палітычных падзеяў у Беларусі у выніку з прайшоўшымі выбарамі.

# РЭЛІГІЙНЫ ФЭСТЫВАЛЬ У МАГІЛЁВЕ І ПОЛЬСКІЯ ІМПЭРЫЯЛІСТЫЧНЫЯ ЛЯТУЦЕНЬНІ

Для тыповага паляка, а таксама для іерархіі польскае Каталіцкае царквы як і для польскіх палітычных уладаў усіх узроўняў, каталік на Беларусі, а пагатоў беларус-каталік у Польшчы — гэта паляк. Каталікоў-беларусаў палякі не прызнаюць у прынцыпе, як пра гэта сьветчыць гісторыя перасьледу беларускага каталіцкага духавенства ў міжваеннай Польшчы ды як гэта відаць з сучаснай практыкі назначаньня палякоў на каталіцкія прыходы й дыяцэзіі ў Беларусі. Польскі экспансіянізм на ўсход, рыхтаваньне грунту для патэнцыяльных легіёнаў на адваёву «крэсаў», апранугы сёньня найвідавочней у ксяндзоўскую сутану. Палітычна польскі характар каталіцтва на Беларусі трэба заўсёды мець на ўвазе, назіраючы дзейнасьць ксяндзоў і манашак. Палітычная скіраванасьць гэтае дзейнасьці, як правіла, прыхаваная вельмі няглыбока пад паверхняй. Навочны прыклад гэтаму — міжнародныя рэлігійныя фэстывалі ў Магілёве, якія абяцаюць стаць традыцыйнымі і якія самі па сабе — зьява дадатная, вартая падтрыманьня. Але зірнем, што за імі хаваецца.

У Нью-Ёрку выходзіць польская газэта «Новы Дзеньнік». У тыднёвым дадатку гэтай газэты, «Пшэглёнд Польскі» (19.05.94), нейкая Тэрэса Седлярова, ў дарожным нарысе пад заг. «У Магілёве над Дняпром» прыгадвае з настальгіяй 1920 год, калі «ішлі баі за кшалт 2-й Рэчыпаспалітай (чытай, міжваеннай Польшчы – А.Б.), за ейную ўсходнюю мяжу, якая сёньня праходзіць амаль 700 кілямэтраў на захад». Пані Седлярова падае словы старшыні магілёўскага Саюзу Палякоў сп. Ежага Зарановіча. Наведаўшы нядаўна Мсьціслаўль, кажа Зарановіч, ён «адразу адчуў, што ў нейкай меры трапіў у Польшчу. Я бачыў там прыгожыя касьцёлы і быў на гары, на якой стаяў некалі замак — цьвярдыня Рэчыпаспалітай. Гэты горад нейкі больш польскі ў стылі». Бязумоўна, Рэчыпаспалітая для Зарановіча, як і для Седляровай, гэта сынонім Польшчы. У дагігім ілюстраваным рэпартажы карэспандэнткі «Новага Дзеньніка» — ні слова пра беларускую дзяржаўнасьць, беларускае нацыянальнае адраджэньне, ня кажучы ўжо пра каталікоў-беларусаў.

Бачылася пані Седлярова і з другім польскім актывістам у Магілёве, ксяндзом Славамірам Бліном. (У карэспандэнцыі Гая Пікарды, што ў гэтым нумары «Беларуса», ён названы Ўладыславам.) Палітычныя пагляды кс. Бліна, як выглядае, такія-ж, як і ў Зарановіча, якога Седлярова ня можа нахваліць: «Прыгожа гутарыць папольску малады старшыня магілёўскага аддзелу Саюзу Палякоў на Беларусі, хоць ад часоў, калі тут была Польшча, мінула больш за 200 гадоў».

Кс. Блін кажа, што яго прыслаў у Магілёў з Горадні біскуп Кандрусевіч у 1989 годзе. Ад таго часу ён шмат што здолеў зрабіць у сэнсе аднаўленьня парафіяў і адбудовы касьцёлаў. Робіць ён гэта зь вялікім натхненьнем, бо верыць у прароцтва. «Маці Божая ў Фатыме сказала, што Расея навернецца (г. зн., акаталічыцца – А.Б.), заявіў пані Седляровай кс. Блін, — я маю на думцы ўвесь Савецкі Саюз, у тым ліку Беларусь, і гэта адбываецца». Вось чаму, кажа ён, «вельмі важна захаваць польскасьць», якая для кс. Бліна, ня цяжка зразумець, спалучаная найбольш з польскай мовай.

«Лічу, што найбольшым цудам, які я тут перажыў, — сказаў карэспандэнтцы «Новага Дзеньніка» кс. Блін, — гэта тое, што парафія так хутка разраслася, што людзі ў Польшчы ня толькі адчыняюць свае ня надта грубыя кашалькі, але яшчэ шырока дзьверы сваіх дамоў і запрашаюць дзяцей з гэтых тэрыторыяў да сябе. І дзеці ўжо вяртаюцца іншымі. Расказваюць, што так прыгожа ў Польшчы, што палякі маюць такія добрыя сэрцы, што жывуць інакш, што моляцца. І што яны таксама хочуць так жыць. Дык я хутка мусіў зрабіць рамонт вежы і сёньня дзьве тысячы дзяцей прыходзіць туды на занятк».

Арганізацыя палякоў у Магілёве запачаткавалася ў 1991 годзе. Усё пачалося з курсаў польскае мовы. Але ў старшыні Саюзу Палякоў Зарановіча пляны шырэйшыя. Ён імкнецца да стварэньня ў Магілёве, кажучы ягонымі словамі «кавалка Польшчы». «Галоўнай маёй мэтай і мэтай палякоў на ўсходняй Беларусі, а значыцца і на ўсходніх тэрыторыях даўнейшай Рэчыпаспалітай, — сказаў Зарановіч пані Седляровай, — стварыць польскі цэнтар... Мроіцца мне польская бібліятэка, аптэка, магла-б быць кавярня, а перш-наперш — як было да рэвалюцыі — Варшаўскі гатэль у Магілёве!».

Павінны спрыяць гэтаму будаўніцтву і міжканфэсійныя фэстывалі рэлігійнай музыкі, да якіх дадумаўся кс. Блін. Ад такого фэстывалю летась у Зарановіча, як ён сказаў, было «цёпла на сэрцы». Бо «на вуліцах усюды было чуваць польскую мову. У горадзе можна было пабачыць ня толькі ксяндзоў і манашак з Польшчы, але й шмат іншых людзей, асабліва моладзі. Можна было хвілінамі думаць, што тут — Рэчпаспалітая, спадкаемцамі якое зьяўляемся мы ўсе».

Каталіцкія ксяндзы на Беларусі, атаесамляючы каталіцызм з польшчынай, адмаўляючыся ў сваёй бальшыні спрыяць адраджэньню беларушчыны і станаўленьню Беларускай Каталіцкай царквы,ператвараюць такім парадкам сваю рэлігійную місію ў падрываньне беларускай дзяржаўнасьці. З гэтага гледзішча бальшыня ксяндзоў на Беларусі ня розьніцца ад бальшыні праваслаўных уладыкаў і сьвятароў, якія таксама, адмаўляючы беларускаму народу ў праве на палітычны сувэрэнітэт і культурна-нацыянальнае адраджэньне, служаць не Беларусі, а расейскаму імпэрыялізму.

**Аркадзь Будзіч**

---




**НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ МАРКІ**

Выйшлі новыя маркі Рэспублікі Беларусь прысьвечаныя беларускім мастаком.

## ВЫСТАВА ГАЛІНЫ РУСАК



У мастацкаведным часапісе ARLIS/NJ Newsletter, Spring-Summer 1994 зьявіўся вельмі зьмястоўны агляд выстаўкі Галіны Русак «Сымбалі Жывучасьці 994-1994», якая адбылася ў Нью-Ёрку ў Галерэі, Сого 20, ад 26-га красавіка да 21-га траўня сёлета.

Для азнаямленьня нашых чытачоў зьмяшчаем ніжэй скарочаны пераклад гэтага артыкулу.

...Галіна Русак выставіла 12 твораў у самастойнай выставе ў сваёй галерэі ў Нью-Ёрку. Беларуская мастачка, якая жыве ў Злучаных Штатах, перадае традыцыйныя беларускія матывы ў эўрапэйскім мадэрністычным стылі пачатку 20-га стагодзьдзя. Яе своеасаблівы пагляд можна акрэсьліць як часткава містычны, часткава мадэрны.

Пасьля экспэрымэнтаў 80-х гадоў, сучасныя абразы Галіны Русак адрозьніваюцца сьведамым ужываньнем рытмічных, гэаметрычных, абстрактных узораў, якія сымбалізуюць гармонію сусьвету і выказваюць пашану прыродзе. У шмат якія творах Русак ужывае бляклыя, зямныя колеры і супрацьстаўляе рэзка-вугольныя з гнуткімі, хвалістымі формамі, як-бы падкрэсьлівае ўсёведаньне прыроды. Ідэя гэтая выражаецца у яе абразах «Дрэва Жыцьця», «Неспакойны Край» і «Берагіня» (Берагіня — паганская багіня Зямлі).

Галоўная моц Галіны Русак у тым, што яна адмаўляе пасыўнае пасьледаваньне сучасных мастацкіх прыёмаў. У яе творах паўторна ўслаўляецца прыгажосць і сіла сымбалю, калі ён дэлікатна вынікае з простых графічных узораў з нечакана моцнай упэўненасьцю.

Захапленьне мастачкі сымбалізмам вынікае з апісаньняў, якія яна падрыхтавала для каталёгу выстаўкі. Напрыклад, да свайго чароўнага абраза «Летні вянок» яна піша: «Вянкі сымбалізуюць летні сонечны кругаход, сілу сонца й шчодрасьць зямлі». «Сымбаль, — кажа яна ў прадмове — меў заўсёды важную ролю ў жыцьці беларусаў: паганскія сымбалі, сымбалізм сярэднявечча, сымбалічная мова ў часы паняволеньня, сымбалізм, які выказвае упэўненасьць, надзею і адраджэньне. Сымбалізм выказваў шчасьце й станоўкасьць, сум і гора».

## БЕЛАРУСКІМ ЛЯЛЬКАМ ЗЬ ІЛЬНУ 25 ГАДОЎ



Ужо прайшло чвэрць стагодзьдзя ад часу, калі народная ўмельца Зінаіда Ляўчэня упяршыню пачала выкарыстоўваць льняное валакно для раблення лялек-сувэніраў. Працавала яна тады на Маладзечанскай фабрыцы, дзе стварыла сваю школу. Цяпер Зінаіда Ляўчэня мае сваю майстэрню. Яе творы ведамыя гэтаксама за мяжой і выстаўляліся на шматлікіх выстаўках.

Тэхніка яе пераймаецца другімі ўмельцамі і цяпер шырака ўжываецца. Лялькі зь ільну экспартуюцца за мяжу.

Амаль у кожнай беларускай хаце ў Амэрыцы ёсьць гэткія льняныя лялькі, часам цэлыя калекцыі.

Вось як аргінальны, тыповы беларускі, побач з саломкай, прадукт быў прыгожа выкарыстаны для мастацкага вырабу, які стаўся ведамы па сьвеце, як Беларускі сувэнір.

## Лёгкаатлеты выбралі гімнам «Пагоню»

Нядаўна ў Кракаве праходзіў лёгкаатлетычны турнір паміж камандамі Вугоршчыны, Польшчы, Украіны й Беларусі.

Здарылася неспадзяванка: арганізатары спаборніцтва ў апошні момант узгадалі, што ня маюць беларускага гімну. Зьвязаліся са спартовую рэдакцыяй Польскага радыё ды папрасілі дапамогі. Тыя зьвярнуліся да тамтэйшых беларусаў, але БССРаўскага гімну ў іх не было, бо ніколі не скарыстоўвалі яго. Затое была «Пагоня» на словы Максіма Багдановіча і «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» Макара Краўцова. Беларусы запранавалі «Пагоню», папярэдзіўшы, што яна разглядаецца як мажлівы варыянт новага беларускага гімну.

У выніку на турніры ў Кракаве гучала «Пагоня». Усім спадабалася, а найбольш — нашым атлетам, якім, напэўна, ужо ўстыла слухаць пра «беларусаў з братняю Русьсю».

**В. ЦАПАЯ**

## НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ МАРКІ




Рэдакцыя й адміністрацыя газэты Беларус
Управа БАЗА і Ўправа БІНІМу, сябры й знаёмыя
вітаюць
**МІХАСЯ РАГУЛЮ**
аднаго зь першых рэдактараў і адміністратараў нашай газэты
з 80-і годзьдзем ды жадаюць шчасьця й памысьнасьці
ў грамадзкім і сямейным жыцьці.

## ДА ГІСТОРЫІ ЭМІГРАЦЫІ Ў ЗША

Пару заўвагаў пра беларускую эміграцыю ў ЗША асабістага характару. А гэтта, дзесьці ў 1973 годзе, пішучы пра беларускі элемэнт у этнічным складзе насельніцтва Амэрыкаў (Паўночнай і Паўднёвай), аўтар гэтых радкоў, на прапанову праф. Мадрыдзкага унівэрсытэту Эрнадэз Санчэз-Барба, які кіраваў курсам, зьвязаным з дактаратам, падрыхтаваў кароткую манаграфію на гэтую тэму. Тэма цікавая, але, як і трэба было спадзявацца, і як відаць з дасьледаваньня др. В. Кіпеля, цяжкая. А цяжкая якраз з тае прычыны, што гэтае пытаньне тады ляжала ялшчэ, як кажуць, «дзірваном». Вось-жа падрыхтоўваючы матэрыял, да перагледаючы вялізарны і надзвычайна цэнны кніжны фонд Беларускае Бібліятэкі імя Доктара Францішка Скарыны, што ў Лёндане, як кажуць, «нарваўся» на працу польскага аўтара Вітольда Станевіча пад загалоўкам «Матуізы Болондзішкі, весь повяту Лідзкего», надрукаваную ў 1923 годзе ў Вільні. Гаворачы пра эміграцыю насельніцтва ўспомненай мясцовасьці, на старонцы 88-й, аўтар падае цікавыя статыстычныя даныя пра лік эмігрантаў зь «літоўскіх земляў», а менавіта, з трох губэрняў: Віленскай, Ковенскай і Гарадзенскай ў ЗША ў гадох 1899-1915. Хаця сярод гэтых эмігрантаў пэўная доля была летувісаў, дзеля навуковае вартасьці падаю ніжэй канкрэтныя лікі ды крыніцу, зь якое аўтар іх чэрпаў: «Аннюал рэпорт оф Джэнерал Коміссёнэр оф Іммігрэйшн», Нью-Ёрк, 1910 *(Annual Report of General Commissioner of Immigration):*

| Год | Лік эмігрантаў | Год | Лік эмігрантаў |
|---|---|---|---|
| 1899 | 6.858 | 1908 | 13.720 |
| 1900 | 10.311 | 1909 | 15.284 |
| 1901 | 8.815 | 1910 | 22.714 |
| 1902 | 11.629 | 1911 | 17.027 |
| 1903 | 14.432 | 1912 | 14.078 |
| 1904 | 12.780 | 1913 | 24.657 |
| 1905 | 18.604 | 1914 | 21.584 |
| 1906 | 14.257 | 191 | 2.638 |
| 1907 | 25.884 | Разам | 255.272 |

Як і сам Станевіч сьцьвярджае некаторая частка з гэтых эмігрантаў пазьней вярнулася на бацькаўшчыну (сярод іх і родны дзядзька аўтара гэтых радкоў Міхал, які жыў у Чыкага дзесьці ад 1913 да пачатку трыццатых гадоў і якога зьнішчылі савецкія бандыты у 1944 г. якраз затое, што ён быў «амэрыканцам» ды сьвядомым беларусам (усьведаміўся ён у гэтым горадзе, дзе жыла, як ён расказваў, «вялізарная колькасьць нашых землякоў). Аднак большасьць зь іх засталася, сьцягваючы пры гэтым яшчэ сваіх сваякоў, уліваючыся ў этнічнае рэчышча амэрыканскага народу. Ня дзіва таму, што на шмат амэрыканскіх ваенных могільніках параскіданых па ўсім сьвеце, або на помніку, што знаходзіцца ў Батэры Парк, што на Мангатане ў Нью Ёрку, прысьвечаным тым, што загінулі ў абароне Злучаных Штатаў Амэрыкі ў 1914-1945 гг. ды пахаваныя на дне акіянаў, ці ў любой даведкавай кнізе тыпу «Хто ёсьць хто» фігуруюць сотні і тысячы беларускіх прозьвішчаў хаця імёны іхныя з'амэрыканізаваныя і замест Ян ці Іван стаіць «Джон», або замест Язэпа — «Джосэп».

А пра гэта мы не павінны забываць. Наадварот, і як падкрэсьлівае аўтар працы «Беларусы ў ЗША», др. В. Кіпель, глыбейшае вывучэньне гэтага пытаньня неабходнае і гэта — заданьне будучых навукоўцаў.

**Віктар Сянькевіч**

## АНГЛАМОЎНЫ ДАВЕДНІК ПРА МЕНСК

*Guy Picarda. MINSK. A Historical Guide and Short Administrative, Professional and Commercial Directory. Minsk – London: "Technalohija", 1994. 255 p.*

Да сьпіску выданьняў найбольш патрэбных беларускай адраджэнскай і папулярызатарскай справе, выпушчаных у сьвет маладым незалежным выдавецтвам «Тэхналогія», дайшоў даведнік пра Менск, грунтоўна апрацаваны ведамым брытанскім беларусістам Гаем Пікардам. Кніга ілюстраваная. У ёй пададзеная кароткая палітычная гісторыя Беларусі; апісаныя характар, звычаі і культура беларусаў; зьмешчаная агульная інфармацыя пра Менск і гісторыя гораду; дэтальна выкладзеныя шэсьць турыстычных маршрутаў па сталіцы; апісанае наваколье Менску. У канцы даведніка зьмешчаныя адрасы музэяў, тэатраў, кінатэатраў, канцэртных заляў, гатэляў, рэстаранаў і г.д., а таксама цэркваў, міністэрстваў, грамадзкіх арганізацыяў, навучальных установаў, замежных пасольстваў, банкаў, гандлёвых прадпрыемстваў ды іншыя карысныя адрасы.

Праваднік па Менску Гая Пікарды — кніжка ня толькі неабходная для наведніка, нават, калі ён і быў ужо раней там, але й вартасная на кожным стале, бо яна дае поўнае і дабразычлівае ўяўленьне пра сучасную сталіцу Беларусі, шырака і кампэтэнтна азнаямляе чытача з драматычнай гісторыяй гораду і ягонай сучаснай прыгажосьцю.

Даведнік каштуе 10.00 ам. дал.; зварачацца на адрас БІНІМу, 230 Springfield Ave., Rutherford, N.J. 07070.

Сьв. † пам.

**ЭВЭЛІНА ШЫМАНЕЦ**

**з дому Пашкевіч**

**I.VIII.1908 – 17.VII.1994**

У Мэзон-Лафіт каля Парыжа, пасьля кароткай хваробы, адыйшла ў вечны супачын наша дарагая і цудоўная Мама, Бабуля і Прабабка **Эвэліна Шыманец**, аб чым у глыбокім горы паведамляюць дзеці Івонка з мужам Янкам Сурвіллам, Лявон з жонкай Мары-Франс; унукі Ганна-Прадслава з мужам і дачушкай, Паўлінка з мужам, Вірджыні і Мікола.

1-га жніўня 1994 году, пасьля цяжкой хваробы, памёр у веку 69 гадоў

**Сьв. памяці МІХАСЬ ПАЛЮХОВІЧ,**

старшыня парафіяльнага камітэту Царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры. Пахаваны 3-га жніўня на парафіяльных могілках. Пакінуў у смутку жонку Валянціну, сёстраў Марыю, Надзю, Анну і братоў Сьцяпана і Івана

*Сям'я й сябры*

## СЬВ. ПАМ. ПЁТРА КОНЮХ



Улетку 1950 году, калі мы з Паўлюком Урабаном, залічыўшыся на гістарычны факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту, прыехалі з Бэльгіі ў Рым, каб папрацаваць у бібліятэках гораду, мы сустрэліся там і пазнаёміліся з часам бліжэй зь Пётрам Конюхам. Пятру Конюху, як відаць сёньня з нэкралёгу — тады пра гэта ня думалася — было сорак гадоў. У Італіі ён апынуўся, як і шмат хто з колішняй Заходняй Беларусі, што былі ў 1940-1941 вывезеныя ў Сібір, праз маршрут Іран – Ірак – Палестына ды паходы польскай арміі генэрала Андэрса. У Рыме Конюху, дзякуючы ягонаму добраму голасу і прыхільнасьці кагосьці зь ягоных ваенных начальнікаў, удалося ўладзіцца на навуку ў кансэрваторыі.

З рымскіх часоў запаматалася Конюхава шчодрая гасьціннасьць, радасьць зь якою ён сустракаў нас з Паўлюком, частуючы найчасьцей жаранінай ды сочнымі памідорамі, пакропленымі цыбуляю і перцам. Беларусаў у Рыме было мала. Айцец Пётра Татрыновіч, які вёў тады беларускія перадачы Ватыканскай радыястанцыі (што пачаліся ў студзені таго-ж 1950 году) рады быў дапамозе Пятра Конюха. Пасьля нашы зь ім сустрэчы адбываліся ўжо ў Лювэне, калі мы выяжджалі на гастролі са студэнцкім хорам Міколы Равенскага, у праграме выступленьняў якога салёвыя нумары Пятра Конюха былі казырнай картай.

Пётра быў вясёлым чалавекам, любіў жарты і заўсёды быў гатовы да сьмеху з нагоды нейкае дасьціпнасьці пад адрасам таго ці іншага ў кампаніі.

Калі я прыехаў у Нью-Ёрк у сакавіку 1957 году, Пётр Конюх ужо быў перабраўшыся зь Італіі ў гэты вялізманы горад. Уладжвацца на новым месцы напэўна было ня проста. На першай пары радыё «Вызваленьне» прапанавала яму супрацоўнічаць у якасьці вольнага карэспандэнта, але да гэтага не дайшло. У Пятра былі іншыя і дадзеныя і жаданьні — ён ведаў, што ягоным капіталам быў мілагучны і добра пастаўлены бас, які і забясьпечыў яму неўзабаве трывалае месца саліста ў шырока ведамым хоры Данскіх казакоў пад кіраўніцтвам Сяргея Жарава. У гэтым хоры нябожчык і прасьпяваў 24 гады. Пасьля даваў таксама лекцыі сьпеву. Часта выяжджаў на гастролі ў самыя розныя краі сьвету: ці раз наведваў Заходнюю Эўропу, быў у Японіі, зь якое ня мог надзівіцца. Сустракаліся мы ў Нью-Ёрку даволі часта. Сям'я Конюхова — маці, жонка, двое дзяцей — засталіся на Бацькаўшчыне. Заўсёды думаў пра іх, дапамагаў шмат матар'яльна. Кадэбэшнікі бачылі гэту ягоную правязанасьць да сям'і. Прабавалі выкарыстаць яе, каб як-небудзь заманугь у сваю сетку, прывабіць да «вяртаньня на Радзіму». Агент з дыпляматычнае бээсэсэраўскае місіі пры ААН прыносіў яму на кватэру запіс галасоў маці і жонкі ў разьліку, што эмігранцкае сэрца раскроіцца папалам і чалавек папросіцца дахаты. Але Пётр Конюх добра разумеў існасьць бальшавіцкай сыстэмы, выразна бачыў усю подлую гульню вакол яго і шкадаваў адно, што ня мог — а фізычнае сілы ў яго на гэта хапала — спусьціць агента па сходах на дно калідору.

Хоць жыць ему даводзілася найчасьцей у адзіночку, Пётр Конюх ніколі не парываў сувязі з сваімі суродзічамі. Ён браў удзел у беларускіх імпрэзах, падтрымваў грамадскае жыцьцё, спрыяў беларускаму эміграцыйнаму друку і шмат якім культурным ініцыятывам. Апошнія гады, пэнсіянерам ужо, ён жыў з другой сваёй жонкай у Канадзе, належаў там да ўкраінскага праваслаўнага прыходу. Быў сталым падпісчыкам «Беларуса», цікавіўся падзеямі на Беларусі, усякімі весткамі з Бацькаўшчыны. Ягоная духовая лучнасьць з родным краем, зь зямлёй сваіх прашчураў, дзе жывуць ягоныя дзеці, унукі і праўнукі, прайшла чырвонай ніткай праз усё ягонае жыцьцё і яшчэ раз падкрэсьленая ягоным запаветам быць пахаваным на беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку, дзе ён загадзя набыў магілу і паставіў сабе за жыцьця яшчэ помнік.

Няхай-жа будзе вечнай сьветлая памяць па верным сыну Беларусі Пятру Конюху, які прайшоў тысячы дарог чужыны і ніколі не пераставаў дбаць пра сваіх родных і суродзічаў.

**Янка Запруднік**

## СЬВ. ПАМЯЦІ ЭЎДАКІЯ АНДРЫЦА



Народжаная 24 сакавіка 1921 году ў Курску, у Расеі. Пазнаёміліся з Аляксандрам Андрыцам у Нямеччыне ў часе вайны і пажаніліся ў 1942 годзе. У восені 1950-га году эмігравалі ў Амэрыку і асяліліся ў Нью-Ёрку.

Памерла сьв. памяці Эўдакія 23-га чэрвеня сёлета ад раку, пасьля цяжкой хваробы. Бог быў міласьцівы да яе, што яна памерла хутка й спакойна ў сваёй хаце, у прысутнасьці цэлай сям'і ды айца Васіля Андрэюка.

Пакінула ў смутку мужа Аляксандра, зь якім пражыла 52 гады, двух дзяцей, дачку Валерыю Андрыца-Карлі і сына Волтэра, пяцёх унукаў і аднаго праўнука, а гэтаксама пляменьніка Васіля Давідзенка ў Курску.

Пахаваная 27-га чэрвеня на могільніку Царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Іст Брансвіку.

**Сям'я**

БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА
ФОНД ДАПАМОГІ АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ Ў БЕЛАРУСІ

# ПАДЗЯКА

Ніне Сільвановіч і Лізе Літаровіч
за ахвяру на суму $ 835.00
на Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі
ў памяць дарагой мамы Веры

☦ Вечная Памяць ☦

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслана непасрэдна ў рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Др. У. Набагез (у памяць П. Конюха) | ам. дал. 200 |
| В. Махнач | 100 |
| Др. Л. Трусэвіч | 100 |
| Ул. і Н. Русак (у памяць П. Конюха) | 50 |
| Н. Жызьнеўскі | 50 |
| В. Андрыца-Карлі | 50 |
| В. і З. Кіпель (для выданьня «Беларуса» у Беларусі) | 100 |
| А. Рамана (для выданьня «Беларуса» у Беларусі) | 100 |

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Др. М. Смаршчок | 100 |
| Я. Сурвіла | 60 |
| В. Кажан | 50 |
| М. Вазьняк-Гаўрылюк | 40 |
| У. Машанскі | 40 |
| Я. Сапежынскі | 30 |
| Я. Канарчук | 30 |
| Я. Азарка | 25 |
| Др. М. Шчорс | 25 |
| А. Каравайчук | 25 |
| Т. Шыбут | 25 |
| А. Шурак | 25 |
| П. Талмацэвіч | 25 |
| Г. Арцюшэнка | 25 |
| М. Радзімскі | 25 |
| І. Перэрва | 25 |
| Ю. Азарка | 25 |
| Л. Грант | 25 |
| Я. Літвінка | 25 |
| а. Г. Радэнковіч | 25 |
| Ул. Дутка | 25 |
| а. Я. Мол | 25 |
| Разам | 725 |

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ

| | |
|---|---|
| Др. А. Занковіч | ам. дал. 150 |
| М. Каленік | 50 |
| Сям'я Стагановічаў ахвяруе ў памяць Аляксандра Стагановіча малодшага, выпускніка гімназіі імя Янкі Купалы, на кнігу аб гімназіі | 200 |
| Др. Я. Запруднік (на кнігу пра гімназію) | 200 |

## ПАДЗЯКА

З удзячнасьцяй адзначаем, што газэтныя выразкі і іншыя прэсавыя матар'ялы, якія ўзбагацілі зьмест «Беларуса», нам прыслалі сп.сп. Я. Сурвіла, Ю. Кіпель, Я. Жучка, В. Рамук, У. Брылеўскі, Ю. Станкевіч, А. Кіпель, В. Махнач, В. Трыгубовіч.